*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас

**№ 113 (695)**

Чацвер, 24 чэрвеня 1999 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 20000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля



*Михаил ПОДОЛЯК*

## Европа после войны: без Беларуси?

*Бытует мнение: если Александр Лукашенко изыщет столь необходимые иностранные инвестиции, а также пристойно сбалансирует внешнеполитическую доктрину, он чрезвычайно увеличит шансы легитимизировать собственное президентство после 20 июля через повторные президентские выборы.*

В связи с этим весьма примечательно смотрятся два знаковых события, имевших место в последние дни. Так, Всемирный банк решил все-таки восстановить должность постоянного представителя банка в Беларуси, а министр иностранных дел республики Урал Латыпов на встрече с дипломатическими представителями Ирака попытался в очередной раз наметить приоритетный вектор развития белорусских межгосударственных отношений. Однако стоит заметить, что происходит это на фоне окончательного разрешения югославского кризиса. Именно сегодня Европа вплотную приступает к формированию новой концепции общеевропейской безопасности. От того, с каким политическим балансом войдет Беларусь в поствоенную Европу, будет зависеть ее дальнейшее экономическое и торговое положение.

Похоже, югославская драма действительно завершилась.

Теперь каждая из заинтересованных сторон начнет подводить итоги участия в затяжном военном конфликте. Сербы, в частности, попытаются прояснить для себя, ради чего, собственно, они пожертвовали своим добрым именем, тысячами молодых жизней и добрососедскими отношениями с половиной Европы. На первый план выходит опять-таки президент Милошевич. По некоторым данным, многомесячное противостояние с НАТО принесло ему весомый долларовый навар. Белградская оппозиция буквально со второго дня мира требует немедленной отмены многочисленных запретительных мер, в частности, запрета на критику исполнительной власти газетами, введенных Милошевичем в связи с бомбардировками.

Между прочими основными участниками конфликта идет откровенная торговля за геополитические преимущества. Российской стороне, благодаря марш-броску десантников генерала Заварзина на приштинский аэропорт, удалось истребовать свою долю в косовском пироге. По идее, столь экзотическим способом Россия оговорила себе преимущественное право вето при формировании новой концепции безопасности.

Впрочем, сама Европа, испытывая некоторый стыд за развязывание войны, намерена в срочном порядке подготовить и воплотить в жизнь новый "план Маршала". По предварительным оценкам, восстановление экономического потенциала Югославии, естественно, с определенными политическими оговорками, будет стоить европейскому сообществу более 18 миллиардов "евро".

Самой политически пострадавшей стороной, как и следовало ожидать, оказалась... суверенная Республика Беларусь. У всех на памяти, сколь агрессивными и вызывающими были заявления и белорусского президента, и ведущих белорусских политиков. И если осуждение белорусской стороной боевых действий в Югославии демократический мир воспринял с пониманием, то не подкрепленное никакими финансовыми и политическими ресурсами стремление Беларуси создать в центре Европы некий реакционный "славянский блок" вызвало, мягко говоря, негативную реакцию. Так или иначе, все участие Беларуси в югославском конфликте сводилось к риторике одного человека. Понятно, что сегодня ни Запад, ни Россия, ни конечно же Югославия не видят смысла приглашать за стол переговоров представителей нашей республики. Так стоило ли Лукашенко сотрясать общеевропейский воздух своей неуемной жаждой быть на стороне сербов?

У правящего режима по-прежнему две приоритетные задачи: каким образом растопить дипломатический и политический лед вокруг республиканского руководства, а также — где изыскать источник внешних инвестиций.

Очевидно, что Беларусь тщится найти себе более-менее приличное место в каком бы то ни было военно-экономическом союзе. Ведь, по сути, в настоящее время Беларусь на внешних политических рынках действует в полном одиночестве. Россия не в счет — она решает собственные геополитические и инвестиционные проблемы. Российская экономика и без того достаточно емко кредитует белорусский топливно-энергетический комплекс.

Впрочем, нынешний белорусский МИД, работая в тесной спайке с торгующими оружием организациями, кое-какие международные контакты находит. Правда, преимущественно с развивающимися странами, ведущими перманентные военные действия на локальном уровне. Деловая беседа Урал Рамдраковича Латыпова с первым заместителем иракского МИДа — из этого разряда. После неудачной попытки пробиться на японский рынок все вернулось на круги своя — республика имеет возможность контактировать только со странами, где у власти находятся весьма специфические режимы. Понятно, что подобная дипломатическая неразборчивость еще более усугубляет и без того одиозный имидж Беларуси.

Проблема внешних заимствований также крайне актуальна. Несмотря на постоянно работающий денежный станок, у республики практически нет ресурсов на системную реструктуризацию финансовой и промышленной сфер. Печатный двор всю свою продукцию подчистую расходует на инфляционные заработные платы. На остальное денег у государства просто нет. А ведь накануне избирательного марафона требуется хотя бы на чуток повысить уровень жизни верного электората. За счет внутренних источников это сделать не получиться.

С другой стороны, Всемирный банк, равно как и прочие мировые финансовые институты, кровно заинтересован в создании некой единой интегрированной финансовой системы. Беларусь, по мнению директора департамента Беларуси и Украины ВБ Пола Сигельбаума, могла претендовать на определенные преференции. Правда, для этого республике необходимо пойти на жесткую либерализацию валютного курса и цен, а также на ускоренное введение института частной собственности и дальнейшую приватизацию. Однако благие намерения Всемирного банка, озвученные Сергеем Куликом, вряд ли найдут понимание у просоциалистической исполнительной власти.

## Стварэнне двух мытных тэрміналаў запланавана ў Магілёве

У Магілёве плануецца стварэнне двух мытных тэрміналаў, што, на думку спецыялістаў, павялічыць эфектыўнасць працы Магілёўскай мытні ў два разы.

Першы мытны тэрмінал з'явіцца ў вобласці сёлета ў траўні ў Бабруйску на міжраённай базе аблспажыўсаюза. Зараз, паводле слоў начальніка Магілёўскай мытні Леаніда Досава, яшчэ два тэрміналы будуць створаны ў абласным цэнтры. Гэта дазволіць хутчэй афармляць неабходныя дакументы экспарцёрам і імпарцёрам прадукцыі. Пакуль жа такая праца вядзецца асобна на кожным з прадпрыемстваў вобласці. На тэрміналах будзе ажыццяўляцца разгрузка аўтамабіляў, прычым вадзіцелям не давядзецца прастойваць без справы, калі раптам у дакументах, што суправаджаюць груз, выявяцца якіясьці недакладнасці: да іх выпраўлення тавары застануцца на ахоўваемых складах.

Дарэчы, на бабруйскім тэрмінале ўжо адкрыты гатэль, кафэ, плануецца наладзіць міжнародную тэлефонную сувязь. Па гэткім жа прынцыпе будуць дзейнічаць і два новыя магілёўскія тэрміналы. Разам з тым, адзначыў Л.Досаў, пакуль будуць захаваны два самых буйных у вобласці мытных пункты — на Магілёўскім ВА "Хімвалакно" і беларускім шынным камбінаце "Белшына".

**Канстанцін УВАРАЎ, БелаПАН.**

**Стоп-кадр**



Грымасы жыцця.

Фота IREX/ProMedia.

## Старшыня ТБМ А.Трусаў лічыць, што эміграцыя У.Някляева "Сведчыць пра немагчымасць супрацоўніцтва з рэжымам, які знішчае ўсё беларускае"

Старшыня Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны Алег Трусаў лічыць, што ўчынак старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Уладзіміра Някляева сведчыць пра немагчымасць супрацоўніцтва з рэжымам, які знішчае ўсё беларускае.

Як вядома, старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў (СБП), вядомы паэт У.Някляеў, прыбыўшы ў Польшчу з прыватным візітам, 20 чэрвеня паведаміў журналістам аб сваім намеры не вяртацца на радзіму. Не надта даўно У.Някляеў у артыкуле "Антыподы і эфіопы", надрукаваным на старонках незалежнай газеты "Народная воля", выступіў з рэзкай крытыкай дзяржаўнай палітыкі ў галіне беларускай мовы, нацыянальнай гісторыі і культуры, а таксама атачэння прэзідэнта Беларусі, у прыватнасці — віцэ-прэм'ера Уладзіміра Замяталіна, які курыруе ва ўрадзе пытанні адукацыі і культуры.

Каменціруючы БелаПАН тое, што адбылося, А.Трусаў сказаў: учынак У.Някляева сведчыць пра "чарговы наступ ўлад ужо на ліберальную беларускую інтэлігенцыю, на тых людзей, якія спрабавалі супрацоўнічаць з рэжымам у пэўных межах". На шчасце, падкрэсліў старшыня ТБМ, "спадар Някляеў не дазволіў сабе пераступіць тую мяжу, за якой пачынаецца ўжо не супрацоўніцтва, а звычайная здрада". "Таму я лічу яго ўчынак фактам грамадзянскай мужнасці, які сведчыць пра тое, што беларускамоўнаму паэту і пісьменніку ў нашай краіне жыць і працаваць надзвычай цяжка", — сказаў А.Трусаў.

Гаворачы пра далейшае развіццё сітуацыі, ён адзначыў, што "не зайздросціць атачэнню прэзідэнта Беларусі, пра якое неўзабаве пачне расказваць У.Някляеў — чалавек, які раней уваходзіў у прапрэзідэнцкія колы". Паводле слоў А.Трусава, уладам не ўдалося публічна зганьбіць Някляева, каб канчаткова запужаць беларускую інтэлігенцыю, бо паэт зрабіў адзіна правільны ход у ягонай сітуацыі. Прынамсі, лічыць А.Трусаў, учынак У.Някляева "можа прымусіць А.Лукашэнку даць адстаўку У.Замяталіну і перайсці на пазіцыі псеўдабеларусізацыі".

Закрануўшы сітуацыю, што ўзнікла ў кіраўніцтве СБП у сувязі з заявай У.Някляева, старшыня ТБМ заўважыў, што лідэры творчага саюза, кіруючыся задачай выжывання ў цяперашніх умовах, павінны склікаць пісьменніцкі з'езд для пераабрання свайго старшыні. З другога боку, лічыць ён, калі У.Някляева не пераабяруць, "улады канчаткова задушаць СБП". Такім чынам, паводле слоў А.Трусава, кіраўніцтва пісьменніцкага аб'яднання стаіць перад маральным выбарам: альбо "ахвяраваць" У.Някляевым, альбо захаваць статус-кво, як гэта адбылося з лідэрам БНФ Зянонам Пазьняком.

Што датычыцца пазіцыі па дадзеным пытанні самых кіраўнікоў СБП, то, як заявіла першы намеснік старшыні Саюза Вольга Іпатава, Саюз беларускіх пісьменнікаў пакуль не мае адназначанай ацэнкі таго, што адбылося. Аднак, адзначыла яна, "пры любым развіцці падзей мы павінны захаваць Саюз пісьменнікаў як важны элемент у рэалізацыі нацыянальнай ідэі".

**Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.**

**Слышали?**

## Задержан директор Белорусского металлургического завода Юрий Феоктистов

По сведениям БелаПАН, рано утром 21 июня в Жлобине задержан генеральный директор Белорусского металлургического завода (БМЗ) Юрий Феоктистов. Обстоятельства задержания и повод пока неизвестны. По некоторым сведениям, сейчас Ю.Феоктистов находится в Минске. Официальные структуры данную информацию пока не подтверждают.

Белорусский металлургический завод — одно из крупнейших предприятий страны, на долю которого приходится около 10 процентов всего белорусского экспорта. В настоящее время на предприятии проводится реконструкция, в результате которой на 80 процентов должен увеличиться объем производимой продукции. Для этих целей руководство БМЗ взяло под гарантию правительства кредит в размере 41 миллиона долларов, или 770 миллионов австрийских шиллингов. Ю.Феоктистов возглавляет завод на протяжении около десяти лет.

**Олег СОКОЛОВ, БелаПАН.**

## Юрия Феоктистова "брали" как главаря вооруженной банды

Позавчера в пресс-центре МВД заявили, что к задержанию Ю.Феоктистова их ведомство никакого отношения не имеет, а в пресс-центре КГБ от комментариев по этому вопросу вообще отказались. По рассказам же жителей Жлобина, произошло следующее:

В семь часов 21 июня, когда директор Феоктистов уезжал на ежедневное совещание руководящего состава завода, начинающееся в 7.15 утра, его у подъезда дома окружили тремя машинами, в числе которых был и автомобиль с громкоговорителями. По спящему микрорайону разнеслись громогласные требования: "Стоять! Руки за голову!".

Перепуганные жители вскочили к окнам и увидели, как известного всему городу Юрия Феоктистова, который как обычно был в костюме с галстуком, окружили люди с автоматами в камуфляжной форме, в масках и бронежилетах, заковали в наручники и поволокли в дом. Через несколько минут его вывели уже в спортивном костюме и увезли. По неподтвержденным сведениям, задержанного директора металлургического завода сутки продержали в Рогачеве, а на следующий день доставили в Минск.

И завод, и город в шоке. И даже не столько по самому факту ареста, сколько по его форме. На Западе так поступают лишь при аресте главарей наркобанд. На Беларуси — это обычная форма задержания министров и директоров заводов. А что б уже совсем было похоже на задержание банды, наручники для массовости нацепили и на директорского охранника, и на водителя. Причина ареста тринадцатитысячному коллективу завода пока не ясна. Известно только, что допрашивали заместителя директора завода по экономике и начальника юридического отдела, но те, по понятной причине, молчат.

Среди всевозможных версий причин ареста есть и такая — продажа за границу металлолома военной техники, которую завод технологически не мог переработать у себя из-за высокого содержания в военном металлоломе марганца.

А ведь еще три недели назад глава правительства Сергей Линг приезжал на завод и хвалил Юрия Феоктистова за производственные дела. Возглавляемый им Жлобинский металлургический завод — лучший налогоплательщик в области.

**Никита ПИГУЛЬ.**

**Акцыі**

## У БНФ створана рабочая група па правядзенні мерапрыемстваў у сувязі з заканчэннем пяцігадовага тэрміну паўнамоцтваў прэзідэнта А.Лукашэнкі

Па рашэнні Сойму Беларускага народнага фронту сфарміравана рабочая група па правядзенні мерапрыемстваў з прычыны заканчэння пяцігадовага тэрміну паўнамоцтваў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнкі ў адпаведнасці з Канстытуцыяй 1994 года.

Каардынатарам групы абраны сакратар Управы БНФ Вячаслаў Сіўчык. У гутарцы з карэспандэнтам БелаПАН В.Сіўчык сказаў, што функцыі рабочай групы — каардынаваць дзеянні з іншымі апазіцыйнымі арганізацыямі, распрацоўваць сумесныя мерапрыемствы. "У ноч з 20 на 21 ліпеня заканчваецца тэрмін паўнамоцтваў прэзідэнта А.Лукашэнкі ў адпаведнасці з Канстытуцыяй 1994 года, — сказаў В.Сіўчык, — і, вядома, народ мае права запатрабаваць справаздачу аб зробленым за час свайго кіраўніцтва".

Беларускі народны фронт і іншыя партыі будуць падаваць заяўкі на правядзенне разнастайных акцый. "Народ мае права прадэманстраваць сваё стаўленне да ўлады. Наша задача як арганізатараў не давесці да сутыкненняў, прадумаць такія схемы, каб не пацярпелі людзі", — сказаў В.Сіўчык.

**Генадзь БАРБАРЫЧ, БелаПАН.**

**Ну і ну!**

## Графіці па-віцебску

Раніцай 22 чэрвеня да поўдня віцебскія ўлады старанна зафарбоўвалі і заціралі беларускія надпісы на цэнтральных будынках горада. Асабліва пацярпеў будынак абласнога Камітэта дзяржкантролю і прылягаючыя да амфітэатра сцены дамоў.

**Юрась КАРПАЎ.**

## Ліберальна-дэмакратычная партыя падтрымлівае стварэнне Рэспубліканскага камітэта "Свабоду Чыгіру і Беларусі!"

Беларуская Ліберальна-дэмакратычная партыя (ЛДП) падтрымлівае стварэнне Рэспубліканскага камітэта "Свабоду Чыгіру і Беларусі!". Такое рашэнне было прынята на прайшоўшым 21 чэрвеня сумесным пасяджэнні Вышэйшага Савета і Цэнтральнага камітэта партыі. Гэты камітэт створаны 16 чэрвеня і ставіць сваёй мэтай вызваленне былога прэм'ера Міхаіла Чыгіра, дэпутатаў Вярхоўнага Савета 13-га склікання Андрэя Клімава, Уладзіміра Кудзінава і іншых палітзняволеных. Члены камітэта таксама маюць намер дамагацца ад улад пошуку і публічнага расследавання бясследна знікшых экс-міністра ўнутраных спраў Юрыя Захаранкі і былога старшыні Нацыянальнага банка Тамары Віннікавай.

Як паведаміў БелаПАН старшыня ЛДП Сяргей Гайдукевіч, партыя гатова аказаць Рэспубліканскаму камітэту дапамогу ў стварэнні сеткі рэгіянальных аддзяленняў праз выкарыстанне партыйных структур ЛДП. С.Гайдукевіч падкрэсліў, што Ліберальна-дэмакратычная партыя падтрымае любыя дзеянні камітэта, якія будуць садзейнічаць развіццю ў Беларусі прававога дэмакратычнага грамадства і вызваленню палітзняволеных. Чакаецца, што ўжо сёння адпаведны ліст будзе накіраваны ў Рэспубліканскі камітэт.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

## Мітрапаліт Філарэт благаславіў правядзенне малебнаў за беларускую мову, прысвечаных гадавіне Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны

Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, патрыяршы экзарх усяе Беларусі благаславіў правядзенне ўрачыстых малебнаў за беларускую мову, прысвечаных 10-м угодкам Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны (ТБМ).

З просьбай даць благаслаўленне на правядзенне ў праваслаўных храмах набажэнстваў "за беларускі народ і ягонае вяртанне да сваёй духоўнай спадчыны, якой з'яўляецца родная мова", да мітрапаліта Філарэта звярнуўся старшыня ТБМ Алег Трусаў. Уладыка дазволіў правесці 27 чэрвеня, у дзень 10-годдзя ТБМ, урачыстыя набажэнствы ў двух праваслаўных храмах сталіцы — Свята-Духавым кафедральным і ў Свята-Петрапаўлаўскім саборах. Акрамя таго, благаславенне мітрапаліта было разаслана па ўсіх епархіях Беларусі, дзякуючы чаму тамтэйшыя арганізацыі ТБМ маюць магчымасць правесці падобныя набажэнствы ў праваслаўных абшчынах краіны.

Як паведамілі ў штаб-кватэры ТБМ, у малебны ўключана "Малітва за беларускую мову", напісаная летась вучаніцай 10 класа 169-й школы Заводскага раёна Мінска Марыяй Заяц. У гэтай малітве дзяўчына заклікае "ўсемагутнага Бога зрабіць так, каб мы, дзеці Беларусі, ніколі не пакідалі нашай беларускай мовы, а наадварот, усім сэрцам любілі яе". Школьніца просіць Усявышняга "паслаць беларускаму народу сваіх служыцеляў, якія праведным жыццём вялі б наш народ да лепшай долі, да свядомага служэння Айчыне".

**Марат ГАРАВЫ.**

## У школах, чые вучні загінулі альбо пацярпелі 30 мая ля станцыі метро "Няміга", выпускныя вечары будуць абмежаваныя ўрачыстай часткай

Больш за 13 тысяч выпускнікоў мінскіх школ 26 чэрвеня атрымаюць атэстаты аб сярэдняй адукацыі. Як паведаміў 22 чэрвеня на прэс-канферэнцыі начальнік упраўлення адукацыі Мінскага гарвыканкама Генадзь Пятровіч, як і раней, школы самастойна распрацоўваюць сцэнарыі выпускных вечароў. Адначасова ў школах, чые вучні загінулі альбо пацярпелі 30 траўня ля станцыі метро "Няміга", "неафіцыйная" частка выпускнога вечара будзе зведзена да мінімуму альбо адменена зусім.

Паводле інфармацыі Г.Пятровіча, у новым навучальным годзе ў 840 падрыхтоўчых класаў прыйдзе 17,6 тысячы дзяцей ва ўзросце 6 гадоў. У сувязі з неспрыяльнай дэмаграфічнай сітуацыяй у бліжэйшыя гады гэтая колькасць знізіцца да 14—15 тысяч чалавек.

Цяперашнім часам у беларускай сталіцы функцыянуе 235 школ, у тым ліку 199 сярэдніх, 4 базавыя, 3 пачатковыя, 14 гімназій, 4 ліцэі, 1 сярэдні каледж і 10 школ для дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця. У іх навучаецца 260,2 тысячы дзяцей. Да 1 верасня ў Мінску будуць уведзены ў эксплуатацыю дзве школы па вуліцах Маякоўскага і Філімонава. У Мінску працуюць 12 пазашкольных установаў. На іх базе адкрыта 3.290 гурткоў, у якіх займаюцца звыш 50 тысяч вучняў.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## Суддзя Надзея Чмара не дазволіла прадстаўнікам Беларускага Хельсінкскага камітэта сустрэцца з Васілём Старавойтавым

Прадстаўнікам Беларускага Хельсінкскага камітэта Гары Паганяйлу і Святлане Мартоўскай суддзёй Кіраўскага раённага суда Надзеяй Чмарай адмоўлена ў сустрэчы з экс-старшынёй аграпрамысловага аб'яднання "Рассвет" Васілём Старавойтавым, асуджаным да 2-х гадоў пазбаўлення волі.

Н.Чмара спаслалася на артыкул 368 Крымінальна-працэсуальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь, які прадастаўляе родным і сваякам права спаткання з асуджаным. "Закон не ўтрымлівае ўказанняў на магчымасць прадастаўлення спаткання з прадстаўнікамі грамадскіх арганізацый", — сказана ў адказе суддзі. Беларускаму Хельсінкскаму камітэту таксама адмоўлена ў прадастаўленні копіі прысуду па справе В.Старавойтава. Як сказала карэспандэнту БелаПАН Святлана Мартоўская, кіраўніцтва праваабарончага камітэта заклапочана фізічным і маральным станам Васіля Старавойтава, які знаходзіцца ў Бабруйскім СІЗА, абгрунтаванасцю рашэння суда ў дачыненні да яго. Суд, на думку Мартоўскай, проста выканаў "палітычны заказ". Выклікае неспакой і той факт, што суддзя Надзея Чмара ўзбудзіла следства яшчэ па двух эпізодах у дачыненні да дзейнасці экс-старшыні "Рассвета". Паводле слоў Мартоўскай, усё гэта робіцца для таго, каб зламаць волю В.Старавойтава, прымусіць яго напісаць пакаянны ліст прэзідэнту А.Лукашэнку. Святлана Мартоўская паведаміла, што кіраўніцтва БХК прадоўжыць намаганні, каб дабіцца сустрэчы з 75-гадовым Васілём Старавойтавым.

**Генадзь БАРБАРЫЧ, БелаПАН.**

## Рискнет ли начальник Бобруйского СИЗО ходатайствовать о досрочно-условном освобождении заключенного В.Старовойтова?

Приговор в отношении Василия Старовойтова через три недели после объявления вступил в законную силу. Председатель Кировского районного суда Надежда Чмара только на прошлой неделе вручила 75-летнему осужденному копию приговора. Поскольку Василий Константинович в предусмотренный Уголовно-процессуальным кодексом недельный срок приговор не обжаловал, то последний вступил в законную силу.

Как уже ранее сообщалось, Надежда Чмара два эпизода из уголовного дела Василия Старовойтова направила на доследование. Но так как это определение суда в следственный изолятор не поступило, то начальник Бобруйского СИЗО имеет формальное право подавать документы на досрочно-условное освобождение своего подопечного Василия Старовойтова, у которого большая часть срока наказания (год и семь месяцев из двух лет лишения свободы) уже истекла.

Другое дело, что данный узник не простой человек: все, что касается его, рассматривается в Минске. И потому без распоряжения из высочайшего окружения начальник Бобруйского СИЗО вряд ли проявит инициативу — чревато потерей места работы.

Но пребывание В.Старовойтова в закрытой тюрьме является нарушением его прав. Ведь режим содержания заключенных в колонии значительно легче. Отсутствие свежего воздуха и солнечного света, длительное нахождение на 76-м году жизни в замкнутом пространстве — весьма существенные факторы, которые продолжают сказываться на здоровье Василия Константиновича.

**Валерий АЛЕКСЕЕВ.**

## Белорусских театралов Санкт-Петербургский театр сатиры потчевал "капустой"

В Минске уже почти целый месяц гастролирует Санкт-Петербургский театр сатиры на Васильевском острове. Недавно после одного из своих спектаклей, на ночь глядя, группа заезжих актеров устроила на сцене Государственного молодежного театра эстрады вечер знакомств, а точнее — капустник.

Капуста — овощная культура, а капустник — это спектакль, устраиваемый после спектакля. Есть несколько важных моментов, без которых его, как и Россию, не понять. Во-первых, "капуста" — дело закрытое и "рубится" не для всех, а исключительно для своих, театральных, людей и тех, кто к ним примазывается. Во-вторых, это дело чрезвычайно веселое, хотя зависит от конретного исторического момента: какая власть на дворе, такой и капустник. А в-третьих, капуста не поточно-рыночный, а штучный товар, который производят исключительно штучные люди. Каким образом в такое духовное дело, как театр, затесался столь прозаичный овощ? За кулисами рассказывают, что сам термин "капустник" будто бы возник от обычая после сбора урожая всем миром, переходя из дома в дом, рубить капусту. А крошили ее, разумеется, со всевозможными шутками, прибаутками, приколами и розыгрышами.

"Водка "Кристалл-100" — белорусский элексир здоровья по доступной цене"; "В Санкт-Петербурге есть актеры покруче Ростислава Янковского!"; "Имидж — ничто, жажда — все. "Минская-4": не дай себе засохнуть" — провозглашали питерцы. Естественно, не забыли и о спонсорах. В принципе, как справедливо заметили со сцены, белорусские меценаты, в лице которых на сей раз выступила Белорусская железная дорога, сделали для российских гастролеров не так уж и много: оплатили дорогу, проживание и питание. А все остальное было на совести самих актеров.

В зале на капустнике были замечены смеющимися народный артист Беларуси Борис Луценко, заслуженные артисты Беларуси Зоя Белохвостик, Виктор Манаев, актер Александр Гарцуев, кинокритик Алла Бобкова, хозяйка студии "Татьяна" Татьяна Логинова, известный театрал Евгений Огурцов.

Откровенно говоря, в капустнике одно скверно: он практически не подледжит описанию. Переведенный в слова, на бумагу, он становится абсолютно несмешным, в то время как со сцены вызывает приступы истерического хохота...

**Марина КОКТЫШ.**

**Надвор'е**

24 і 25 чэрвеня па краіне захаваецца пераменная воблачнасць. 24-га месцамі па краіне, 25-га ў заходніх раёнах кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Вецер усходні 5—10 м/с, пры навальніцах парывы да 15—20 м/с. Тэмпература паветра ўначы — +13...+18, удзень — +27...+32, па захадзе +22...+26.



Пр. Варнавы, Варфаламея, Яфрэма.
К. КУПАЛЛЕ (Нараджэнне Яна Хрысціцеля).

ЧЭРВЕНЬ
**24**
'99 ЧАЦВЕР

☉ Усход 4.38, Захад 21.46, Даўж. дня 17.08
☽ Перш. квадра 20 чэрвеня, Захад 3.28, Усход 18.11

Поздравляем!

# Познать красивое как суть

**Сегодня, 24 июня, белорусскому художнику Владимиру Товстику исполняется пятьдесят лет. В преддверии юбилея я попыталась договориться с ним об интервью. Но получила отказ. "Я человек в некотором смысле замкнутый, — сказал Владимир Антонович. — За меня лучше скажут мои работы..." Или же коллеги-художники — подумала я. И обратилась к Леониду Щемелеву, не только другу Владимира Товстика, но и соседу по мастерской.**

*Справка "Народной воли":*
*Владимир Антонович Товстик родился в 1949 году в Минске.*
*С 1966 по 1972 гг. учился в Академии искусств Беларуси у Натана Воронова.*
*1973—1976 гг. — учеба в творческих мастерских Академии художеств СССР в Баку.*
*С 1972 года постоянный участник республиканских, всесоюзных и зарубежных выставок.*
*С 1978 года член Белорусского союза художников.*
*С 1976 года преподает в Белорусской Академии искусств, с 1996 года — профессор кафедры рисунка БАИ.*
*В 1994 году присуждена Государственная премия Республики Беларусь за серию живописных работ "Свет и тени".*
*С 1995 года — академик живописи и Вице-президент Белорусской Академии изобразительного искусства.*
*В 1996 году Владимиру Товстику была присуждена II премия миссии ООН в Беларуси "Хабитат-II".*
*Его работы находятся в крупнейших музеях Беларуси, Азербайджана, в фондах Министерства культуры Беларуси и России, в галерее "П.Брейгель" в Амстердаме, в музее "Зимели-Арт" США, а также в частных собраниях Финляндии, Германии, Словении, Швейцарии, Греции, Израиля, Польши, Голландии, США, Беларуси и России.*



"Пятьдесят — сравнительно молодой возраст для художника, — говорит Леонид Дмитриевич. — Хотя для Владимира Товстика — это очень серьезный творческий этап...

Владимир Товстик из одного поколения с такими талантливыми художниками, как Николай Селещук, Владимир Савич и многие другие. Эта интересная плеяда, на мой взгляд, составляет костяк изобразительной культуры нашей республики.

Я хорошо знаю Владимира, его семью, его жизнь. И вижу, что это человек, наполненный энергией и чувством к прекрасному. Бог дал ему умение мыслить, рисовать, рассуждать по поводу увиденного. Владимир Товстик интересуется не только сегодняшним, но и завтрашним днем.

Он впитал все лучшее, что было в мировой культуре, связал это со своими представлениями о мире красивого и преподнес нам настоящие открытия.

После окончания института Владимир Товстик стажировался в Азербайджане. Оттуда приехал в Минск с хорошим багажом и сразу же проявил себя как интересный художник. Я хорошо помню его первые работы: "Подготовка к свадьбе", "В парке" и многие другие. Они были очень интересны, и художник сразу же стал пользоваться популярностью. Владимир активно выставлялся не только у нас, но и в Москве. Тогда это было очень престижно. И художников отбирали для выставок не по конъюнктурным соображениям, а по профессиональным качествам. Много тогда было и обид. Некоторые представители старшего поколения художников говорили: "А почему именно он?".

Мы участвовали вместе Владимиром во Всемирной выставке в Турции. Попасть на эту выставку очень сложно. От Беларуси было только три работы, и одна из них — Володи Товстика...

Владимир Товстик — великий труженик. Наши мастерские рядом, и я вижу, сколько времени он отдает работе. Вечером у него всегда горит свет. Володя очень предан своей профессии. Сегодня не так все просто и в мире, и в Беларуси. И несмотря на это художник находит мужество открывать для себя новые горизонты — познать красивое как суть.

Товстик — один из интереснейших художников республики. Пятьдесят лет — это возраст зрелости, та площадка, которая дает ему возможность видеть мир интересным и интересно его изображать. Сейчас Владимир работает над любопытнейшей тематикой — по-своему раскрывает артистический мир. Он смотрит на вещи с определенной тонкостью, с определенной неоклассичностью.

Я хотел бы пожелать Владимиру Товстику крепкого здоровья. Не для того, чтобы поднимать гири, а для того, чтобы иметь этот плацдарм для будущего творчества. Ведь нет ничего прекрасней в мире, чем само творчество. У человека открывается второе дыхание. Я желаю Владимиру Товстику, чтобы он действительно творил и всегда был таким, какой он есть.

Искусство требует радости, восторга, теплоты и любви. Если нет этого, художник становится на путь раздражительности, а это — сон разума, который, как известно, рождает чудовищ. Я бы хотел, чтобы у Владимира Товстика были прекрасные сны..."

**Анна СОУСЬ.**
**Фото Евгения КОКТЫША.**

Малоизвестные страницы

# Удушливые стоны тамбовских крестьян,

## или Химическое оружие в контексте советской истории

Часто средства массовой информации СНГ напоминают нам о том, что химическую войну в Ираке против сограждан (национального меньшинства — курдов) развязал Саддам Хуссейн. Однако подобные выверты были отмечены еще в России в 1921 году, когда известный М.Тухачевский впервые в мире применил против своих соотечественников — восставших крестьян Тамбовской губернии — отравляющие газы, в результате чего все живое села Кипец и других мирных селений данной губернии было практически уничтожено этим чудовищным химическим оружием.

Как свидетельствуют рассекреченные ныне документы той поры, для подавления восстания крестьян в Тамбовской губернии был назначен проявивший себя в советско-польской войне 1920 г. молодой и энергичный командарм М.Тухачевский. Отданный им лично оперативно-секретный приказ №116 от 12 июня 1921 года гласил: "Леса, где прячутся бандиты, очистить ядовитыми газами, чтобы облако распространилось по всему лесу, уничтожая все, что там пряталось...".

В своем распоряжении "полководец" имел более 45 тысяч бойцов, 768 пулеметов, 103 орудия, 5 бронепоездов, 21 бронеавтомобиль, 18 самолетов и — неограниченные полномочия на тот момент. Однако он решил... применить отравляющие газы, хотя мог при наличии такого огромного арсенала нейтрализовать "мятежников" неоднократно.

Впоследствии, будучи маршалом Советского Союза, Тухачевский сам стал жертвой государственного произвола: в 1937-м его расстреляли как врага народа. А ведь военачальником он (объективности ради следует сказать) был талантливым. Вот только удушливые стоны тамбовских крестьян будут вечно довлеть над его исторической фигурой, словно каменная глыба.

**Александр ШУСТОВСКИЙ.**
г.Борисов.

Спорт

# Конкуренция в армрестлинге все сильнее

Хотя сильнейшая рукоборка Беларуси Елена Кондратова и говорит о себе: "Я не волшебник, я только учусь", аббревиатуру присвоенного ей в конце мая звания "заслуженный мастер спорта" — ЗМС — вполне можно расшифровать так: заслуженный маг спорта. Посвятив армспорту 7 из 26 лет своей жизни, с 1993 года Елена — неизменный призер всех международных соревнований, трехкратная чемпионка мира, четырехкратная чемпионка Европы, победительница всех республиканских первенств.

Кроме Кондратовой женскую сборную нашей страны представляют чемпионка мира Людмила Шестакова, чемпионка Европы Маргарита Смирнова, призер чемпионата Европы Наталья Иванова, призеры чемпионата мира Оксана Половинко и Елена Оскирко. Все эти спортсменки пришли в армрестлинг относительно недавно, но благодаря своей целеустремленности и стараниям Валерия Бабука — президента федерации армрестлинга, заслуженного тренера Республики Беларусь, главного тренера национальной сборной, — заметно прогрессируют.

Мужчинам труднее отличиться на международных соревнованиях. Столы для армспорта превращаются в бурлящее страстями многоязыкое ристалище, причем количество соперников приблизительно вдвое больше, чем у женщин-рукоборок, и в некоторых весовых категориях доходит до 30 человек.

"С каждым годом конкуренция все сильнее, — отмечает Елена Кондратова. — На проходившем с 14 по 16 мая в Речице чемпионате республики у мужчин, особенно выступивших в категории до 70 кг, была самая настоящая "рубка"!.. Удача все же улыбнулась 70-килограммовым Олегу Мацкевичу и Денису Семенидо, а также Сергею Барановскому (60 кг), Кириллу Гусалову (100 кг) и Вячеславу Шараговичу (свыше 100 кг). Все эти спортсмены стали чемпионами. Правда, титулованному рукоборцу Илье Хандрамаю на этот раз немного не повезло — 4-е место, поскольку выступал он с травмированной рукой.

Кстати, крепкими должны быть не только руки.

По свидетельству очевидцев, иногда во время мужских схваток тяжеловесы ненароком вырывают штыри для свободной руки, а сборные столы в самый ответственный момент простонапросто разваливаются, даже будучи тщательно прикрученными к полу...

Отрадно, что наших спортсменов знают далеко за пределами родины. Например, в 1997 году на чемпионате мира в Индии все семь представителей Беларуси — 4 девушки и 3 парней — в упорной борьбе завоевали призовые места, причем Елена Кондратова, Людмила Шестакова и Владимир Никольский стали обладателями наград высшей пробы.

Если армрестлинг, как это предполагается, станет олимпийским видом спорта, в нем будет кому представлять Беларусь.

**Вячеслав КЛИМЕНКО.**

Шкловские мотивы



Дети купают лошадей и купаются сами в небольшом озере вблизи деревни Чемоданы.

**Фото IREX/ProMedia.**



Продавщицы продовольственного магазина в райцентре, выстроившись гуськом, разгружают ящики с вином.

**Фото IREX/ProMedia.**



## У цэнтры Магілёва ў чарговы раз на праезджую частку павалілася апора электраліній

У панядзелак на цэнтральнай вуліцы Магілёва павалілася апора электраліній. На шчасце, ніхто з прахожых не пацярпеў.

Апошні час жалезабетонныя слупы на Першамайскай вуліцы Магілёва падаюць рэгулярна — раз у паўгода. Першы паваліўся 25 студзеня ад таго, што разбурыўся фундамент апоры. Апошняе здарэнне, згодна з версіяй ДАІ, адбылося па віне кіроўцы тралейбуса, які нейкім чынам збіў штангамі расцяжку апоры, ад чаго слуп пераламаўся на дзве паловы. Рух тралейбусаў у бок чыгуначнага вакзала быў спынены на 2 гадзіны.

Горш за ўсё, што сёння ні ў кога няма ўпэўненасці, што гэты павалены слуп — апошні. Пусты гарадскі бюджэт не мае магчымасці замяніць апоры электраліній, што адпрацавалі свой тэрмін, якіх у Магілёве налічваецца каля трохсот.

**Канстанцін УВАРАЎ, БелаПАН.**



Погляд

# Масавая некрафілія

З пад'езда сучаснага дома выйшаў малады тата з пяцігадовым сынам. Тата — чыста паголены, з яснымі вачыма, нібыта адмытымі ад будзённага пылу і клопатаў. Хлопчык — апрануты "як дарослы", горда трымаў галаву і потайкі пазіраў навокал — ці бачыць хто, які ён "сапраўдны мужчына". Праз хвіліну з дзвярэй выпырхнула і мама — свежы твар, пэўна, толькі-толькі быў накладзены завяршальны штрых, крануты памадай вусны, зроблены апошні рух расчоскай па валасах.

Тата паправіў на плячы куфэрак з фотаапаратам, узяў за руку сына і крочыў наперад.

— Святочны выхад? — пацікавілася я ў маладой кабеты.

— Хочам паехаць на "Нямігу" — паглядзець. Кажуць, там шмат фатаграфій, кветак, людзі ўвесь час збіраюцца, плачуць, — ахвотна, з ажыўленнем адказала яна. На прыгожым твары ззяла прамяністая ўсмешка, нібыта ад прадчування чыгосьці прыемнага.

І неяк спахмурнела неба, малюнак застыў у нерухомасці, і прыгожыя твары и адзенне падаліся нейкімі недарэчнымі.

У нас з'явілася новая "культурная кропка", куды ідуць "на экскурсію" з дзецьмі, як у парк адпачынку, каб сфатаграфавацца на фоне партрэтаў загінуўшых, на фоне чыёйсьці жалобы.

Нейкая ўсеагульная некрафілія апанавала нашыя душы. Паглядзіце, з якой цікаўнасцю, з якой прагай відовішчаў бягуць нашыя дзеці, калі недзе чуюцца гукі пахавальнага маршу. З якім ажыўленнем у транспарце, у чэргах, ля дамоў абмяркоўваюць жудасныя здарэнні. З якой ахвотай чытаюць газеты крымінальна-крывавага зместу.

І не трэба ні культурных, ні палітычных падзей: смерць — самая цікавая для многіх тэма, якая стварае ілюзію паўнаты жыцця. Плявузганне слоў замяняе думкі і пачуцці. Не трэба думаць, і галоўнае — спачуваць.

Ледзяніць душу думка — па нейкім касмічным законе, магчыма, па законе захавання энергіі, ніякі попыт не застаецца без прапановы. Пакуль мы будзем прагнуць крывавых відовішчаў — яны будуць здарацца.

**Аляксандра БАТУРЫНА.**

## Пытанні, датычныя ўмоў закрыцця Чарнобыльскай АЭС, будуць абмяркоўвацца падчас маючага адбыцца візіту ў Кіеў канцлера ФРГ Г.Шродэра

Пытанні, датычныя тэрмінаў закрыцця Чарнобыльскай АЭС і прадастаўлення Украіне крэдытаў на дабудову двух блокаў на Хмяльніцкай і Ровенскай атамных электрастанцыях, будуць абмяркоўвацца 8—9 ліпеня падчас візіту ў Кіеў канцлера ФРГ Герхарда Шродэра.

Як паведаміла агенцтва УНІАН, на мінулым тыдні парламент Германіі выказаўся супраць прадастаўлення Украіне фінансавай дапамогі для завяршэння будаўніцтва двух атамных блокаў, а таксама рэкамендаваў Еўрапейскаму банку рэканструкцыі і развіцця (ЕБРР) адкласці рашэнне аб выдзяленні крэдыту ў памеры каля 1 млрд. долараў ЗША. Украіна ж настойвае на выдзяленні крэдыту, неабходнага ёй для двух новых рэактараў, што дазволіла б кампенсаваць энергетычныя страты ад закрыцця Чарнобыльскай АЭС.

Чакаецца, што спрэчныя моманты будуць узгоднены бакамі падчас маючага адбыцца візіту ў Кіеў канцлера ФРГ.

**БелаПАН—УНІАН.**

Памяць

# Петрусёва "галгофа"

Бяда прыйшла неспадзявана. Над вёскай пачынаў ужо згушчацца шэры змрок кароткага снежаньскага дня, калі ля двара нашай суседкі Юлі Балвановіч, салдацкай удавы, спыніліся двое конных немцаў. Спешыўшыся і накінуўшы павады на плот, яны пайшлі ў хату, мусіць, не ведаючы, што вёска з восені 42-га года лічылася "партызанскай" і лясныя салдаты наведвалі яе ледзь не кожную ноч. Убачыўшы праз акно тых немцаў, маці сказала з трывогай у голасе:

— Ой, чуе маё сэрца — не мінаваць бяды. І якое ліха прыгнала сюды гэтых немцаў, раніцою ж па вуліцы хадзілі партызаны, яны недзе тут.

Матчына прадбачанне збылося. Ці то цётка Юля напомніла немцам пра тое самае, аб чым гаварыла маці, ці самі яны адчулі, што трапілі ў пастку, бо хуценька ўскочылі на варанных і паехалі назад, у свой гарнізон, што з восені 43-га года атабарыўся ў вёсцы Вясея, ля шашы-"варшаўкі", да яе ад нашай — дзевяць кіламетраў.

А паколькі дарога праходзіла паўз лес, немцы, не даехаўшы да яго, збочылі на балоціну — у абход. Коні на лёдзе пачалі коўзацца, верхавыя спешыліся і павялі іх за павады. І тут жа з недалёкага лесу загрукацелі аўтаматы ППШ, вінтовачныя стрэлы. А праз некалькі хвілін па вёсцы разнеслася трывожная вестка: "Немцаў партызаны пабілі, а коні пабеглі далей". Ведаючы, як акупанты помсцяць за смерць сваіх салдат, вяскоўцы на досвітку наступнага дня з дзецьмі выбраліся ў лес. Засталіся старыя і нямоглыя. Бацька наш наказаў маці заставацца ў хаце, а нас, пецярых хлапчукоў і дзяўчынку-малалетку, паклікаў за сабою ў лес. Памятаю, як ён ацэньваў "подзвіг" партызан, што ля вёскі пабілі двух неасцярожных немцаў: "Яны ж маглі іх жывымі ўзяць, разам з конмі ля Юлінага двара — і ніхто б у гарнізоне не ведаў, куды яны падзеліся. Дык усчалі страляніну, хоць бы коней забралі". Яшчэ гаварыў бацька пра ваўка, які, калі яго логава знаходзіцца паблізу вёскі, авечку там не зарэжа. Гэтага правіла, між іншым, партызаны з год прытрымліваліся — не чапалі немцаў, калі тыя не раз днём прыязджалі ў вёску. Рэйкі на чыгунцы ірвалі, міны на шашы закладвалі, а ля вёскі зброю не прымянялі, што было выгадна і ім, і жыхарам, якія кармілі партызан, давалі прытулак для адпачынку. І раптам — такі "збой".

Назаўтра немцы з Вясеі на чатырох павозках прыехалі шукаць загінуўшых салдат, не ведаючы, што партызаны іх трупы апусцілі ў палонку ў рэчку Слівянку, якая працякае па той балоціне.

Паставіўшы на загуменнях кулямёты, немцы пайшлі па хатах і задавалі адно пытанне: хто ведае, дзе загінулі іх салдаты, пакажыце месца бою. Бабулі і дзядкі, што засталіся дома, дрыжачымі галасамі адказвалі: "Не ведаем, паночкі. Чулі стральбу за вёскай". Адзін немец зайшоў у нашу хату і праз перакладчыка задаў маці тое ж пытанне. Яна развяла рукамі — маўляў, нічога вам не скажу, бо не ведаю. Немец праз перакладчыка адказаў: "Калі ніхто ў вёсцы не пакажа тое месца, яна будзе спалена". І абодва выйшлі. А насупраць нашай хаты стаяў ля сваёй брамкі сусед, Пятрусь Кунцэвіч, мужчына ў гадах, недзе пад пяцьдзесят яму было. Акупантаў у размовах з вяскоўцамі ён ацэньваў па-свойму: маўляў, калі іх не будзеш чапаць, то і яны зла не зробяць, ён немца ведае з той, першай сусветнай вайны. Гэтая наіўная даверлівасць да акупантаў і падвяла яго на "галгофу". Немцы загадалі Петрусю следаваць за імі — каб паказаў месца бою. Маці наша чула, як ён гаварыў ім: "Я ўсё, пан, пакажу".

Але што можна было адшукаць на заросшай пажухлай асакой балоціне? Хіба толькі паказаць узлесак, адкуль партызаны вялі агонь, не болей. Таму развязка наступіла хутка. Немцы вырашылі адыграцца на гэтым абутым у лапці, прыгнутым нялёгкім жыццём селяніне, усклаўшым на сябе выратавальны для вёскі крыж. Цесакомштыком яму перабілі руку, а затым стрэлам у патыліцу забілі, аблілі бензінам і запалілі.

Ніколі не забуду, як позна вечарам труп Петруся яго сын Мікола прывёз на падводзе і з вясковымі мужчынамі ўнёс у хату. Абгарэлы, з разварочаным разрыўной куляй тварам, труп нябожчыка ўнушаў жах кожнаму, хто заходзіў паглядзець на яго. Пасля такога відовішча вяскоўцы яшчэ з тыдзень хадзілі на дзень у лес — баяліся вяртання акупантаў і новых караў, бо ў памяці кожнага была трагедыя суседняй, за лесам, вёскі Падлошыца. Калі насупраць яе, узбоч шашы-"варшаўкі", партызаны з брыгады Ваўпшасава ноччу спілавалі штук дзесяць тэлеграфных слупоў, карнікі са Слуцка вывелі на вуліцу семярых дзядуляў ва ўзросце ад 67 да 83 гадоў і расстралялі. Астатніх жыхароў не паспелі — яны загадзя пахаваліся хто дзе змог і ацалелі.

Але паўторнага візіту акупантаў у нашу вёску не паследавала. Толькі праз месяц надвячоркам на санях завіталі чацвёра паліцаяў са Слуцка. Яны ўзялі ў заложнікі чацвярых вясковых хлопцаў 16—17-гадовага ўзросту, завялі ў адну з хат і павялі размову, дзе іх будуць расстрэльваць. Гаспадыня пачула і ўзмалілася: "Хлопчыкі, не трэба, яны ж дзеці, ні ў чым не вінаватыя!". Адзін з нягоднікаў, адвёўшы жанчыну ў сенцы, шапнуў на вуха: "Дурніца, няхай мацяркі хлопцаў нясуць па бутэльцы самагону — усіх адразу адпусцім". Што і было зроблена. Аднесла паўлітэрку "сівухі" і наша маці, бо ў заложнікі трапіў і мой старэйшы брат Тоня. Паліцаі неўзабаве паехалі назад. І хоць іх шлях пралягаў паўз той самы лес, адкуль партызаны вялі агонь па прыблудных немцах, ні адзін з лясных салдат не адважыўся перахапіць вандроўную п'яную чацвёрку.

Мая бабуля на другі дзень, калі да яе ў хату зайшлі двое партызан і пачалі шукаць самагонку, кінула ім у твар тое, што набалела: "Бабам пад спадніцы заглядваць, каб што сцібрыць, вы смелыя, а як чацвёра паліцманаў нашых хлапчукоў заарыштавалі і хацелі пастраляць, дык вы па кустах хаваліся! Не дам самагонкі — і не шукайце". Дакор бабулін быў заслужаны: напрыканцы, калі яна вярталася пад вечар са Слуцка, ля лесу яе спыніў партызан і выцягнуў з-за пазухі прыхаваную бабуляй торбачку з двумя шклянкамі купленай на базары солі — вострадэфіцытнага ў вайну прадукта...

Яшчэ паўгода вёску трэслі ўсе, хто меў пры сабе зброю. Днём наязджалі немцы, паліцаі, смуглатварыя, у доўгіх шынялях, мадзьяры, нахабныя ўласаўцы з нашыўкамі "РОА" на рукавах нямецкіх мундзіраў — іх вяскоўцы пазнавалі па адборным маце-перамаце ў гамонцы, і кожны трос хату запужанага селяніна, браў усё што хацеў. А ноччу стукалі ў дзверы партызаны, зайшоўшы ў хату моўчкі пачыналі шныраць па кутках, у запечку, у зацемку сенцаў і кладоўкі. І калі ў канцы чэрвеня 44-га года вярнулася нарэшце Чырвоная Армія, вёска ўздыхнула з палёгкай. Памятаю, як маці, перахрысціўшыся на абразы на покуці, сказала са слязьмі на вачах: "Слава табе, Госпадзе, што паслаў нам збаўленне..."

**Міхась ТЫЧЫНА.**
г.Слуцк.

## Четверг, 24 июня

**БТ**

06.30, 07.10 Доброе утро, Беларусь!
07.00, 09.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 00.00 Новости.
08.15 "Сегодня с вами..." Начальник объединения "Охрана" при МВД Республики Беларусь Александр Щурко.
08.40 Потребительская корзина. Социально-экономическая программа.
09.10 Королевская охота.
09.40 Мультфильмы.
10.05 "Все мы родом из детства". IV Всебелорусский телефестиваль юных талантов. Минская область. Ч. 3-я.
11.10 Новые имена.
11.20 Телесериал "Верность любви" (Италия).
11.55 Киноочерк "Подводный поиск".
12.05 Наш край. "Из истории белорусской экономики".
12.25 "А музыка звучит..."
13.10 Дневной сеанс. Приключенческий фильм "Зверобой". 1-я с.
14.25 Сущность. Духовный путь Пушкина.
15.10 Сериал для детей "Боишься ли ты темноты?" (Канада).
15.35 Мультфильм.
15.50 Д/ф "После Победы". 2-я с. "Под свастикой".
16.30 Сельчане. Витебская область.
17.15 "Макаенка, 9".
17.40 Киноочерк "Степь".
17.48 "Усадьба".
18.15 Телесериал "Верность любви" (Италия).
18.50 Новые имена.
19.15 Политические диалоги.
19.40 Международные спортивные новости.
20.00 Добрый вечер, Беларусь! В программе: "Разговор в прямом эфире", "Что делать?", юмористическая рубрика "Отбой".
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.40 Событие.
21.55 Телебарометр. Прогноз погоды.
22.15 Х/ф "Долгие версты войны" ("Беларусьфильм"). 3-я с.
23.20 Криминальная хроника.
23.25 Белорусский хит-парад.
23.30 Программа для молодежи "Крок".
00.10 Музыкально-развлекательная программа "Акколада".
00.35 Мультфильм для взрослых.

**ОРТ**

08.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.10 Новости.
08.15 Сериал "Во имя любви".
09.15 Человек и закон.
10.05 Клуб путешественников.
10.50 Домашняя библиотека.
11.15 Программа "Вместе".
14.15 Сериал "Гарри — снежный человек".
14.45 "Волшебный мир, или Синема".
15.00 Улица Сезам.
15.30 ...До шестнадцати и старше.
16.00 Сериал "Во имя любви".
17.15 Угадай мелодию.
17.45 Здесь и сейчас.
18.05 "Чтобы помнили..."
18.45 Сериал "Зимняя вишня".
19.45 Спокойной ночи, малыши!
20.00 Время.
20.40 Однако.
20.50 Детектив "Черная вуаль".
22.40 "Собрание заблуждений".

**РТР**

06.00 Доброе утро, Россия!
06.20 "У всех на устах".
06.45 "Программа передач".
08.15 "Дежурная часть".
08.45 "Товары — почтой".
09.10 Сериал "Миледи".
10.00, 16.00, 19.00, 23.50 Вести.
15.25 Сериал "Первые поцелуи".
16.30 Башня.
17.00 "Гомеопатия и здоровье".
17.05 "Нивея": секреты красоты.
17.10 Х/ф "Любить".
18.30 Сериал "Да, господин министр!".
19.40 Подробности.
19.55 "Два рояля".
20.45 Детектив "Фуфель".
22.40 "Слушается дело".
23.35 "Дежурная часть".
00.20 "Диалоги о рыбалке".
00.50 "Магазин на диване".

**КУЛЬТУРА**

07.05, 11.30, 13.30, 19.30, 23.00 Новости культуры.
07.25 "Ноу-хау".
07.40 Д/ф "Тихая обитель", "Это я — Константин Камбегов".
08.30 "Треугольная сфера Александра Рукавишникова".
09.05 Х/ф "Чудаки".
10.20 Концерт ОРНИ.
11.00 "Театр моей памяти".
11.40 После новостей...
12.00 "Раскаявшийся Волк" и другие народные сказки.
12.35 "Людмила Зыкина. Разговор по душам".
13.05 Сонеты Шекспира.
13.45 "Осенние портреты".
14.10 "Живое дерево ремесел".
14.20 "Музыкальная история".
15.00, 17.30 Новости.
15.10 "Лукоморье".
15.30 Сериал "Аляска Кид".
16.25 "Рисунки А.С.Пушкина".
16.45 Музыкальный антракт.
17.00 Широкий формат.
17.40 "Джотто".
18.05 "Российский курьер".
18.45 "Время музыки".
19.10 "Чудо-сказка".
19.50 Д/ф "Бомба".
20.45 После новостей...
21.05 Х/ф "Чудаки".
22.20 "Видеопоэзия".
22.30 "Джазофрения".

**НТВ**

06.00, 07.30, 07.00, 07.30, 08.00 Сегодня утром.
06.10, 07.15 Спорт.
06.20 Градусник.
06.25, 07.45 Сегоднячко.
06.35 Мультфильм.
06.45 Карданный вал.
06.50 Впрок.
07.25 Криминал.
07.35 Большие деньги.
08.10 Сериал "Любовь и тайны Сансет Бич".
09.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 21.00 Сегодня.
09.20 Х/ф "Скромница".
11.30 "Старый телевизор" вспоминает: "Тени исчезают в полдень".
13.30 Сериал "Детектив Нэш Бриджес".
14.20 Сегоднячко.
15.30 Сериал "Возвращение в Брайдсхед".
16.30 Впрок.
16.55 Сериал "Любовь и тайны Сансет Бич".
17.40 Криминал.
18.40 Герой дня.
19.00 Боевик "Шестой".
20.35 Профессия — репортер.
21.45 Сериал "Детектив Нэш Бриджес".
22.40 Сегоднячко.
23.20 Сегодня в полночь.
23.50 Теннис. Уимблдон. Обзор дня.

**TV-6**

14.00, 17.00 ТСН-6.
14.10, 00.25 "Знак качества".
14.20, 22.25 Телемагазин в Минске.
14.40 Сериал "Дикая Роза".
15.30 Сериал "Готовы или нет".
16.00 ДИСК-канал.
16.30 "В мире людей".
17.20, 21.50 Дорожный патруль.
17.30, 00.35 Сериал "Грейс в огне II".
17.55 "Династия II. Семья Колби".
19.00 "Новости дня".
19.30 "О.С.П.-студия".
20.25 "В мире людей".
20.55 Сериал "Вавилон 5".
22.00 Шесть новостей дня.
22.10 Те Кто.
23.00 Гала-концерт на Манежной площади.

**8-й канал**

18.00 Программа Кеннета Коупленда.
18.30 Мультфильм "Гаркулы".
20.00 Новости "К-видео" (информация о фильмах, прошедших классификацию Госрегистра).
20.30 Вечарніца.
20.45 Сериал "Секретные материалы".
21.45 Отбой.
22.00 "Принц из Нью-Йорка".



**Адрас рэдакцыі:**
220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: (017) 229-28-71.
Тэл./факс рэкламнага аддзела: 229-29-04.
E-mail : nv@irex.minsk.by

**Індэкс 63222.**

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае.
Рэгістрацыйнае пасведчанне №246. Нумар газеты надрукаваны з дыяпазітываў у ПП "Мэджык". Адрас: г. Мінск, вул. В. Харужай, 13. Падпісаны ў друк у 21.00. Фармат А-2. Тыраж: суботні — 61050 экз., у другія дні — 55000 экз. Заказ №834